Выходзіць з 20 снежня 1945 года

газета
# НАСТАЎНІЦКАЯ

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 13 (5344)
Аўторак, 5 лютага 2002 года
Кошт у розніцу — 120 руб.

З пасяджэння калегіі Міністэрства адукацыі

## Больш самастойнасці, але больш і адказнасці

***Калегія Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь разгледзела на сваім пасяджэнні вынікі дзейнасці міністэрства ў 2001 годзе і задачы на 2002 год. З дакладам выступіў Міністр адукацыі П.І.Брыгадзін.***

У мінулым годзе, сказаў Пётр Іванавіч, асаблівая ўвага ўдзялялася павышэнню якасці адукацыі. Адна з умоў такога павышэння – удасканаленне зместу і вучэбна-метадычнага забеспячэння.

Зацверджаны дзяржаўны стандарт "Дашкольная адукацыя. Гатоўнасць да школы", вядзецца распрацоўка камплекта вучэбных дапаможнікаў для дзяцей 5-гадовага ўзросту. Колькасць інтэграваных вучэбна-выхаваўчых устаноў "школа – дзіцячы сад" павялічылася на 62 адзінкі і склала 402. Дзейнічаюць 20 дашкольных цэнтраў развіцця дзіцяці. На базе 506 дашкольных устаноў праходзіць эксперымент па новаму зместу і формах навучання. Расце колькасць інтэграваных груп для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. Пачалося стварэнне дашкольных устаноў з гібкім рэжымам дня.

Па прагнозах на 2002 год, плануецца адкрыць 9 дашкольных Цэнтраў развіцця дзіцяці, 52 школы-дзіцячыя сады. Неабходна забяспечыць дапрацоўку стандартаў дашкольнай адукацыі, новых праграм і вучэбна-метадычных комплексаў.

У 2001-2002 годзе завяршаецца пераход чатырохгадовай пачатковай школы на новую структуру і змест адукацыі.

Падрыхтаваны праграмы і вучэбна-метадычныя комплексы па ўсіх прадметах вучэбнага плана для IV класаў, праграмы для V класаў, апрабіраваны падручнікі для V і VI класаў дзесяцігадовай базавай школы. Далейшае развіццё атрымала сістэма дыферэнцыраванага навучання, якой ахоплена сёння 38 працэнтаў школьнікаў. Станоўчай ацэнкі заслугоўвае работа ўпраўлення адукацыі Віцебскага аблвыканкама па стварэнню ўмоў для развіцця школ сельскай мясцовасці. У школах Глыбоцкага, Полацкага, Браслаўскага, Аршанскага раёнаў каля васьмідзесяці працэнтаў навучэнцаў ахоплены дыферэнцыраваным навучаннем.

Але ёсць і нявырашаныя праблемы. Не распрацаваны змест адукацыі старэйшай (ліцэйскай) ступені школы. Праект вучэбнага плана ёсць, але неабходна яго эксперыментальная праверка. Да пачатку вучэбнага года трэба дэталёва прааналізаваць праграмы, вызваліць іх ад другараднага матэрыялу і дубліравання, звярнуўшы асаблівую ўвагу на пераемнасць пачатковага, сярэдняга і старэйшага звяна школы, узмацненне міжпрадметных сувязяў. Непакоіць таксама існуючы разрыў ва ўзроўнях падрыхтоўкі гарадскіх і сельскіх школьнікаў. Пакуль нельга сказаць, што тут знойдзены кардынальныя рашэнні.

Сёння ў рэспубліцы больш 113 тысяч дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. У рамках стварэння сістэмы бесперапыннай адукацыі для гэтых дзяцей распрацаваны новыя вучэбныя планы для спецыяльных агульнаадукацыйных устаноў, вызначаны змест спецыяльнай пачатковай школьнай адукацыі.

Развіваецца сумеснае навучанне такіх дзяцей з іх здаровымі равеснікамі, ствараюцца цэнтры карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі. Аднак і ў гэтай сферы існуе шэраг праблем. Не праводзілася работа па стварэнню сістэмы ранняга выяўлення парушэнняў у развіцці дзяцей ад нараджэння да трох гадоў. Працэс інтэграцыі да цяперашняга часу так і не стаў цэласным, які б ахапіў перыяды перадшкольнага, дашкольнага і школьнага развіцця.

Навучанне без страт для здароўя, без перагрузак – гэта таксама праблема якасці агульнаадукацыйнай дзейнасці. Яе закліканы вырашыць перавод школы на пяцідзёнку. Пяцідзёнка арганічна ўпісваецца ў жыццё школы з 12-гадовым тэрмінам навучання. У 11-гадовай школе, ва ўмовах перагружанасці вучэбнага плана, яна будзе мець свае асаблівасці і, магчыма, некаторыя выдаткі ў арганізацыі і пабудове вучэбна-выхаваўчага працэсу.

У Брэсцкай вобласці пачалася апрабацыя некалькіх мадэляў арганізацыі педпрацэсу ва ўмовах пяцідзёнкі на аснове існуючага вучэбнага плана. Але ўжо сёння варта арыентаваць кіраўнікоў устаноў на тое, што ім будуць дадзены шырокія паўнамоцтвы ў вырашэнні праблем пяцідзёнкі з улікам канкрэтных умоў.

Міністр адукацыі падрабязна спыніўся на пытаннях падрыхтоўкі кадраў у ПТНУ, ССНУ, ВНУ. І надалей будзе працягвацца работа па забеспячэнню пераемнасці ў атрыманні агульнай, прафесійна-тэхнічнай, сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыі. У той жа час П.І.Брыгадзін адзначыў нядобрую тэндэнцыю да аслаблення кантролю за выкананнем вучэбных праграм, зніжэння патрабавальнасці да выкладчыкаў, студэнтаў, навучэнцаў. Улічваючы вялікую разнастайнасць праграм у сістэме прафесійна-тэхнічнай адукацыі, неабходна ў кароткі тэрмін забяспечыць кантроль якасці іх падрыхтоўкі. Пачата распрацоўка стандартаў сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Але гэта работа вядзецца вельмі марудна.

Дабіцца станоўчых вынікаў у якасці адукацыі немагчыма без сучаснага вучэбна-метадычнага забеспячэння.

Пра якасць падручнікаў сказана многае. Сёлета неабходна правесці экспертызу і дапрацаваць іх, знайсці дадатковыя крыніцы фінансавання для іх выпуску.

Абвастраецца праблема забеспячэння школ рэспублікі сродкамі навучання. Часткова яе можа зняць узнаўленне дзейнасці вучэбнага тэлебачання, а таксама стварэнне і тыражаванне вучэбных фільмаў на відэакасетах.

На пачатак года 86 працэнтаў базавых і сярэдніх агульнаадукацыйных школ аснашчаны камп'ютэрнай тэхнікай. Аднак 75 працэнтаў гэтага парка ЭВМ – выпуску 1985-1992 гадоў. Сур'ёзную заклапочанасць выклікае і стан вучэбна-матэрыяльнай базы прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў. Сярэдні ўзрост машын і абсталявання складае тут 17 гадоў. Пэўныя крокі па змяненні сітуацыі ў лепшы бок прымае мясцовая ўлада. Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь адобрана нядаўна праграма тэхнічнага пераабсталявання прафтэхадукацыі. Недахоп фінансавых сродкаў ускладняе і развіццё вучэбна-метадычнага забеспячэння ССНУ.

Спыніўшыся на пытаннях выхавання, П.І.Брыгадзін адзначыў, што яно становіцца ўсё больш сацыяльна арыентаваным. Эфектыўнасць яго ў многім вызначаецца ўзаемадзеяннем з сям'ёй. Развіццё сацыяльнага партнёрства з сям'ёй павінна ажыццяўляцца па двух асноўных напрамках: уключэнне бацькоў у адукацыйны, і асабліва выхаваўчы, працэс і аказанне псіхолага-педагагічнай і сацыяльнай падтрымкі сям'і. Па першаму напрамку пэўная работа вядзецца ў дашкольных установах, сістэме спецыяльнай адукацыі. У той жа час у школе пакуль не знойдзены дзейсныя формы і метады работы з бацькамі, хаця з боку міністэрства, органаў адукацыі ў рэгіёнах ёсць і жаданне, і стараннне.

Летась створана 26 сацыяльна-педагагічных цэнтраў і 65 дзіцячых сацыяльных прытулкаў. Рана выяўляюцца дрэнныя сем'і, многае робіцца па прафілактыцы сацыяльнага сіроцтва, па ўладкаванню дзяцей-сірот у прыёмныя сем'і. Гэта дазволіла прыпыніць рост сацыяльнага сіроцтва. Колькасць злачынстваў сярод непаўналетніх скарацілася на 15,8 працэнта, колькасць удзельнікаў – на 21,3 працэнта.

Неабходна і далей развіваць інстытут сацыяльных педагогаў і педагогаў-псіхолагаў, сістэму сацыяльна-педагагічных устаноў і аховы дзяцінства, сямейныя формы ўладкавання на выхаванне дзяцей-сірот, карэнным чынам палепшыць падрыхтоўку моладзі да сямейнага жыцця. Жадае лепшага работа пазашкольных устаноў пры бясспрэчным багатым вопыце многіх з іх.

Найбольш балючымі былі летась і застаюцца сёлета праблемы з фінансаваннем сістэмы адукацыі. Дзяржава робіць усё, каб падтрымаць яе на ўзроўні, забяспечыць належнае функцыяніраванне і развіццё. У 2001 годзе планавыя расходы на адукацыю былі вызначаны ў памеры 6,2 працэнта ад валавага ўнутранага прадукту без уліку капітальных укладанняў.

Ёсць усе падставы разлічваць на пэўную стабільнасць фінансавання і ў далейшым. У новай рэдакцыі Закона аб адукацыі замацаваны некаторыя гарантыі бюджэтнага фінансавання галіны. Але варта помніць, што ўжо сёння адна з самых важных частак бюджэту (каля 20 працэнтаў) ідзе на ўтрыманне і развіццё адукацыі. Таму неабходна вучыцца зарабляць грошы, выкарыстоўваць вялікі патэнцыял навукі ВНУ, магчымасці ўстаноў адукацыі, гатоўнасць арганізацый і грамадзян укладваць сродкі ў адукацыйную сферу.

Існуючы ўзровень фінансвання забяспечвае расходы на зарплату, трансферты насельніцтву, стыпендыі, пенсіі, дапамогі, прадукты харчавання, на якія ў структуры бюджэту прыходзіцца больш як 75 працэнтаў усёй сумы.

Фінансавы год сёлета складваецца няпроста, але міністр выказаў надзею, што леташнія даўгі будуць пагашаны бюджэтам, а новыя не ўзрастуць да катастрафічных памераў. Фінансавы стан сферы адукацыі ў многім будзе вызначацца тым, як пройдзе рацыяналізацыя сеткі ўстаноў, якое атрымае развіццё пазабюджэтная дзейнасць.

Жывы водгук у зале выклікалі словы дакладчыка па задачах стварэння прававой базы для пазабюджэтнай дзейнасці. Адсутнасць яе не дазваляе ў многім сёння кіраўніку самастойна зарабляць сродкі, нават маючы вялікае жаданне і ўмовы. Увогуле ж даныя сведчаць аб зніжэнні тэмпаў росту даходаў ад рэалізацыі платных адукацыйных паслуг. Важнейшым напрамкам дзейнасці заклікана стаць навуковая і інавацыйна-вытворчая дзейнасць.

Аплата працы работнікаў сферы ў мінулым годзе выглядала наступным чынам.

Сярэднямесячная зарплата склала летась 101,3 тысячы рублёў, або 68,3працэнта ад сярэдняй зарплаты ў прамысловасці. Сярэднямесячная заработная плата педработнікаў (за выключэннем прафесарска-выкладчыцкага складу) была 114,4 тысячы рублёў, або 77,1 працэнт да сярэднямесячнай у прамысловасці, настаўніка – адпаведна 118,8 тыс.рублёў, або 80,1працэнта.

Па-ранейшаму застаецца нізкім узровень зарплаты маладых спецыялістаў. Так, стаўка маладога настаўніка-выпускніка з улікам павышэння за стаж работы па спецыяльнасці склала ў снежні 2001 года крыху больш 60 тысяч рублёў.

Міністэрства адукацыі распрацавала прапановы па ўдасканаленню аплаты працы і будзе іх адстойваць. У перспектыве плануецца ўвесці штатна-акладную сістэму аплаты працы настаўнікаў школ і выкладчыкаў сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў, што дазволіць павысіць узровень арганізацыі працы, дысцыпліны і адказнасці педагогаў, а таксама ўстанавіць залежнасць узроўню зарплаты ад вынікаў дзейнасці.

Свайго вырашэння патрабуюць праблемы збалансаванасці падрыхтоўкі кадраў з улікам дэмаграфічнай сітуацыі, прагназіравання развіцця агульнаадукацыйнай і прафесійнай школы. Будзе ўдасканальвацца існуючая сістэма падрыхтоўкі, перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі педагогаў. У цэлым сітуацыя з кадрамі стабілізавалася. Цякучасць іх у 2001 годзе склала 7,8 працэнта, у Гомельскай вобласці – 6,4 працэнта. У той жа час яна павялічылася ў Мінску, абласных цэнтрах і буйных гарадах. Пакідаюць школу выкладчыкі інфарматыкі, матэматыкі, фізікі, фізічнай культуры.

Марудна мяняецца структура падрыхтоўкі кадраў для школы ў сувязі са змяненнямі ў дэмаграфічнай сітуацыі. Неабходна своечасова разгледзець і вырашыць пытанні, звязаныя з расстаноўкай і выкарыстаннем педагогаў, якія працуюць у пачатковых класах.

У прафесійна-тэхнічных навучальных установах змяншаецца колькасць выкладчыкаў спецыяльных і агульнапрафесійных прадметаў з вышэйшай прафесійна-педагагічнай адукацыяй. Узмацніўся адток найбольш кваліфікаваных майстроў вытворчага навучання. Доля педагагічных работнікаў пенсійнага і перадпенсійнага ўзросту дасягнула 16,6 працэнта. Назіраецца тэндэнцыя старэння педагагічных кадраў і ў сістэме сярэдняй спецыяльнай адукацыі.

Прыпынілася развіццё кадравага патэнцыялу ў вышэйшай школе. У апошнія гады назіраецца тэндэнцыя да змяншэння колькасці кандыдатаў навук. Колькасць дактароў навук – 5,36 працэнта, а патрэбна не менш 10 працэнтаў.

Кіраўніцтва ВНУ і навуковых устаноў не ў поўнай меры ўсведамляе, што ж адбываецца. Так, у 2001 годзе не выкананы план прыёму ў аспірантуру ў дзесяці падведамасных арганізацыях, у дактарантуру – ва ўсіх установах. Нізкая эфектыўнасць работы аспірантуры і дактарантуры. Летась завяршылі навучанне з абаронай кандыдацкай 45 чалавек (6,7 працэнта). Колькасць выпускнікоў дактарантуры – 22 чалавекі, у тым ліку з абаронай – 6 чалавек.

Для кардынальнага паляпшэння падрыхтоўкі навуковых кадраў, на думку міністра неабходна стварыць адзіную сістэму падрыхтоўкі кадраў вышэйшай кваліфікацыі: "ВНУ – аспірантура – дактарантура", забяспечыць мэтанакіраваны адбор талентаў ва ўсіх рэгёнах краіны.

Вышэйвыкладзеныя палажэнні абмяркоўваліся ў спрэчках па дакладу. Па разглядаемаму пытанню прынята пастанова калегіі.

У рабоце калегіі прынялі ўдзел памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь – начальнік галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь І.А.Карэнда, намеснік Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь У.Н.Дражын.

**Адам МАРКЕВІЧ.**



Вучань Гомельскага гарадскога ліцэя №1 Яўген Мiроцін на нядаўнім ушанаванні таленавітай моладзі абласнога цэнтра быў удастоены яшчэ адной "Нікі". Гэтая статуэтка – прыз Гомельскага гарвыканкама для таленавітай моладзі. Раней Яўген быў ганараваны "Нікі" ў намінацыі "Прадметная алімпіяда", а цяпер адзначаны за актыўны ўдзел у гульнях "Што? Дзе? Калі?" у раздзеле "Інтэлектуальныя гульні".

НА ЗДЫМКУ: Яўген Міроцін са сваімі ўзнагародамі.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА.**

Дзяржаўнае пытанне

## Каб Закон працаваў на настаўніка

***31 снежня новы базавы Закон аб адукацыі быў прыняты Саветам Рэспублікі Нацыянальнага сходу краіны. З гэтай нагоды - наша размова са старшынёй Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе прафесарам І.В.КАТЛЯРОВЫМ.***

**- Ігар Васільевіч, Вас можна павіншаваць! Вы задаволены?**

– Безумоўна. Хаця калі шчыра, я лічу, што гэта – прыняць закон – можна было зрабіць месяц назад. І тады ўжо сёння ён быў бы падпісаны Прэзідэнтам краіны, і дакумент пачаў бы сваё жыццё. Аднак пакуль у дзеянне ён не ўведзены. На працягу дзесяці дзён яго павінен падпісаць А.Р.Лукашэнка.

**- Вы ўпэўнены, што Прэзідэнт краіны гэты галоўны базавы закон нацыянальнай сістэмы адукацыі падпіша? Вы перакананы і лічыце, што выпрацаваны новы дакумент - гэта ідэальны варыянт?**

– Так. Лічу, дэпутаты вельмі добра папрацавалі. Аднак хачу пры гэтым падкрэсліць, што наша праца над зместам і структурай новай рэдакцыі Закона аб адукацыі была вельмі няпростай. Работа ішла цяжка, асабліва на стадыі галасавання. Болей трох гадоў дакумент "хадзіў" па Палаце прадстаўнікоў першага і другога склікання. Дэбаты былі гарачыя і, я б сказаў, жорсткія. Былі прапановы нават увогуле адхіліць Закон. Урэшце, мы ведаем, толькі 19 снежня мінулага года Палата прадстаўнікоў ухваліла законапраект.

Намаганні дэпутатаў не былі дарэмнымі. Мы практыкавалі выязныя і пашыраныя пасяджэнні камісіі, сустракаліся з выкладчыкамі вышэйшых навучальных устаноў і студэнтамі, дырэктарамі агульнаадукацыйных школ і сельскімі настаўнікамі, словам, з тымі, хто чакаў і спадзяваўся, што новы дакумент стане значна лепшым за папярэдні. Што ў рэшце рэшт і атрымалася. Нават прыхільнікі старога праекта закона прызналі, што новы варыянт – лепшы.

Мы ўлічылі заўвагі і прапановы грамадзян. З іх толькі 137 – ад саміх дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў. З 74 артыкулаў у новым законапраекце засталося 54. Ён стаў больш ёмістым і больш глыбокім па сутнасці, у ім улічаны інтарэсы не толькі радавога настаўніка, тых трох мільёнаў чалавек, занятых непасрэдна ў сферы адукацыі, але і ўсіх грамадзян, кожнага з нас. Мы ставілі перад сабой мэту стварыць такі закон, каб ён працаваў у першую чаргу на настаўніка і змог вывесці нацыянальную сістэму адукацыі на новы якасны ўзровень. Наш законапраект – яе галоўны базавы дакумент. Ён – плацдарм для работы на будучае для дэпутатаў, якія сёння працуюць ужо над законамі аб вышэйшай школе, прафесійна-тэхнічнай адукацыі, навуцы, паслядыпломнай адукацыі і г.д.

**- Гэтыя законы не будуць дубліраваць сябе?**

– Ні ў якім разе. Таму мы і скарацілі базавы дакумент амаль утрая. Цалкам магчыма, што з цягам часу мы створым свой адукацыйны кодэкс, у які ўвойдуць усе законапраекты, якія тычацца сферы адукацыі. Сёння канкрэтна пакуль пра гэта размова не ідзе. Але на перспектыву задачу такую мы перад сабой ставім.

**- Ігар Васільевіч, якая праблема ў сферы адукацыі сёння, на Ваш погляд, найбольш вострая?**

– Безумоўна, фінансавая: заработная плата настаўнікаў, забеспячэнне ўсёй сістэмы адукацыі матэрыяльнымі рэсурсамі. Мы дабіліся, каб зарплата настаўнікаў была прапісана асобным радком у бюджэце. Цяпер мы зможам кантраляваць яе рост і дабівацца, каб яна павышалася. Лічба 10 працэнтаў ад унутранага валавага прадукту, закладзеная ў законе, куды ўваходзяць усе расходы на фінансаванне адукацыі – гэта выключна важны аспект.

Мы задаволены таксама, што змаглі дабіцца таго, каб колькасць месцаў у навучальных установах для студэнтаў за кошт бюджэту не памяншалася. Здольны да вучобы малады чалавек цяпер зможа бясплатна вучыцца колькі пажадае. І гэта здорава! Мы вырашылі пытанне ўзаемаадносін школы і канфесій.

**- Якім чынам?**

– Мы пайшлі на кампраміс. На разумны кампраміс, падкрэслю. Нягледзячы на тое, што былі прапановы ўвогуле забараніць удзел канфесій у навучальным і выхаваўчым працэсе (маўляў, гэта "разарве" школу на часткі). Рашэнне ўсё ж прынята: даць магчымасць канфесіям прымаць удзел у выхаванні нашых дзяцей – з дазволу бацькоўскай грамадскасці. Сітуацыя ў краіне з падлеткамі і моладдзю прымусіла нас да гэтага рашэння. Не сакрэт, што многія нашы падлеткі сёння фактычна прадастаўлены самі сабе, кінуты на волю лёсу, цяжкага лёсу. У краіне многа дзяцей-сірот пры жывых бацьках. "Маладзее" п'янства і наркаманія. Хіба дзесяць-пятнаццаць гадоў назад у нас было такое, каб у вячэрні час не працавалі спартыўныя секцыі і пляцоўкі? Не! Цяпер такая практыка існуе. Вось менавіта ў гэты вячэрні час святар і мае права прыйсці ў школу.

**- Новы Закон аб адукацыі дапаможа сельскаму настаўніку?**

– Ва ўсякім выпадку мы да гэтага шчыра імкнуліся і ставілі перад сабой мэту гэтага дамагчыся. Інакш калі памрэ сельская школа – памрэ вёска. Памрэ вёска – пачнуць знікаць цэлыя рэгіёны. Такія факты ў нашай краіне ўжо ёсць. Мы дабіліся дваццаціпрацэнтнай надбаўкі для сельскага настаўніка, як і было раней. Аднак яе не выплачваюць у некаторых рэгіёнах па віне мясцовых органаў. Увогуле, мяне вельмі хвалюе той факт, што адукацыя сёння набліжаецца да той рысы, за якой памяншэнне фінансавання сістэмы адукацыі небяспечна і літаральна пагражае знішчэннем усяго лепшага, што ў ёй напрацавана. Такая сітуацыя вымагае смелых крокаў і ад ўладаў, і ад Прэзідэнта краіны.

**Падрыхтавала Святлана БЕНЬ.**

Выставы

## Усе кнігі ў госці да нас

***З 12 па 15 лютага 2002 г. у Мінску ў Нацыянальным выставачным цэнтры "БелЭКСПА" (вул. Я.Купалы, 27) адбудзецца буйны кніжны форум - Беларуская кніжная выстаўка-кірмаш (БКВК-2002), фундатарамі якой з'яўляюцца Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў".***

Па традыцыі ў кірмашы возьмуць удзел вядучыя беларускія і замежныя выдавецтвы, паліграфічныя і кнігагандлёвыя прадпрыемствы, якія прадставяць сваю друкаваную прадукцыю на суд як прафесіяналаў кніжнай справы, так і самага шырокага кола чытачоў, спецыялістаў, многіх знаўцаў і аматараў кнігі.

Экспанаты кірмашу абяцаюць быць прыгожымі і разнастайнымі: і па тэматыцы, і мастацкім афармленні, і паліграфічным выкананні; задаволяць розныя інтарэсы і густы наведвальнікаў. Удзельнікі кірмашу прадставяць увазе публікі ўвесь спектр кніжнай прадукцыі, выпушчанай у апошнія гады.

Гэта унікальныя энцыклапедычныя і даведачныя выданні, навуковыя, навукова-папулярныя, выданні па пытаннях тэхнікі, эканомікі, дзяржавы і права, медыцыны, творы класічнай і сучаснай мастацкай літаратуры беларускіх, рускіх і замежных пісьменнікаў, фотакнігі, альбомы, прадукцыя выяўленчага мастацтва. Экспазіцыя Беларускай кніжнай выставы-кірмашу, як і заўсёды, будзе вызначацца прадстаўнічым паказам дзіцячай вучэбнай, метадычнай і развіццёвай літаратуры – для дашкольнага навучання, пачатковай, сярэдняй і вышэйшай школы; кнігі па педагогіцы: энцыклапедыі, слоўнікі, даведнікі, падручнікі і вучэбныя дапаможнікі, геаграфічныя карты і атласы, іншыя друкаваныя выданні.

Найбольш поўна прадставяць выпушчаную прадукцыю гаспадары выстаўкі-кірмашу – беларускія кнігавыдаўцы. Асобны раздзел будзе прысвечаны кнігам-лаўрэатам 42-га Рэспубліканскага конкурсу "Мастацтва кніг" па выданнях 2001 года выпуску.

Разгорнутыя экспазіцыі рыхтуюць кнігавыдаўцы Расіі, Украіны. Яны прадэманструюць кніжныя навінкі сваіх выдавецтваў, многія з якіх спецыялізуюцца на выпуску дзіцячай і вучэбнай літаратуры. Удзельнікам і наведвальнікам кніжнага форуму будзе прадастаўлена таксама магчымасць пазнаёміцца з кніжнымі экспанатамі Германіі і Францыі.

У рамках выстаўкі-кірмашу адбудуцца розныя культурныя мерапрыемствы: прэзентацыі кніг, сустрэчы з аўтарамі, выдаўцамі, мастакамі, узнагароджанне мастакоў-ілюстратараў кніг – пераможцаў 6-га Рэспубліканскага конкурсу “Мастак і кніга”.

Арганізатары Беларускай кніжнай выстаўкі-кірмашу чакаюць мінчан і гасцей сталіцы ў поўнай упэўненасці, што тут, на галоўнай кніжнай пляцоўцы рэспублікі, кожны зможа знайсці добрую, карысную, патрэбную кнігу, атрымаць самую вычарпальную інфармацыю аб апошніх навінках кнігавыдання. Яны вельмі разлічваюць і на тое, што кірмаш збярэ вялікую дзіцячую аўдыторыю, што яе наведаюць вучні школ, каледжаў, гімназій са сваімі педагогамі, бацькамі, а таксама студэнты і выкладчыкі розных навучальных устаноў.

Дзівосны свет кніг адкрые дзверы 13-14 лютага 2002 г. – з 10.00 да 18.00, а 15 лютага – з 10.00 да 14.00.

І яшчэ: звяртаем увагу, што для арганізаваных груп вучняў, а таксама для дзяцей да 12 гадоў – уваход бясплатны.

**Алена ШЫЦІК,**
**галоўны спецыяліст Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**

